ГЕРОІ НАШЫХ ДЗЁН

# ЗАПЯВАЛЫ

Іван СІНЯЎСКІ

Вёска Плёсы — цэнтр калгаса «Перамога» — адным канцом падыходзіць упрытык да шашы Бабруйск—Жлобін. Здзіўляе сама назва вёскі. Вакол — ні возера, ні ракі, ні нават сажалкі. І толькі на ўсход ад Плёсаў, прыкладна ў кіламетры, ёсць нізіна, парослая лазняком і алешнікам. Гэтае балотца ў засушлівае лета так перасыхае, што па ім можна смела хадзіць і ездзіць. У сівую старыну, відаць, тут было возера і вёска атрымала ад яго сваю паэтычную назву. А магчыма, для назвы была іншая прычына. Старажылы ўспамінаюць страшэнную галечу, што панавала тут да Вялікага Кастрычніка. Жыхары пахілых, падслепаватых хат большую частку года сядзелі баз хлеба і солі; адным словам, заплёсквала людзей гора.

Яшчэ едучы да Плёсаў, пераконваемся, што тут нядрэнныя гаспадары. Па ўсім полі — чорныя штабялі торфаперагною. Зямля чыстая ад хмызняку. Прыбрана каменне. Няма́ла, значыць, папрацавалі механізатары.

— Эх, якое раздолле цяпер трактарыстам і камбайнерам, — хочацца сказаць.

Канцылярыя калгаса — пад адным дахам з прасторным клубам. Насупраць, цераз шашу, новы сельмаг. З канцылярыі відаць доўгія, з пабеленымі сценамі, будынкі жывёлагадоўчых ферм, што наводшыбе ад вёскі.

Старшыня калгаса Якаў Міхайлавіч Шахоўскі — высокі, з дапытлівымі чорнымі вачыма, гадоў сарака пяці. У яго шырокі пакаты лоб і пасівелыя скроні, рухі энергічныя, поціск рукі моцны.

Ён ахвотна расказвае пра планы арцелі на трэці год сямігодкі.

Калгаснікі змагаюцца, каб на кожныя сто гектараў зямлі атрымаць па 350 цэнтнераў малака, 70 цэнтнераў мяса.

Якаў Міхайлавіч называе лепшых свінарак і птушніц. Камсамолкі Ніна Шкрадзюк і Марыя Бандарчук адкармліваюць па 125 свіней. Галіна Самак і Надзежда Чэрнік дагледаюць па тысячы курэй.

— Але найбольш даходаў мяркуем атрымліваць за малако, — кажа старшыня. — Сёлета ў нас 370 дойных кароў.

На жывёлагадоўчых фермах, калі мы прыйшлі туды, работа была ў самым разгары: даяркі прыбіралі стойлы, раздавалі жывёле кукурузны сілас. На падвеснай дарозе снавалі ваганеткі.

Пасля даяркі паздымалі спяцоўкі, апрануліся ў беласнежныя халаты. Праз колькі хвілін звонка зацурчала ў даёнках малако, прыемна запахла сырадоем.

З Любай Сакун мы пазнаёміліся, калі яна закончыла даіць цёмнабурую вушастую карову.

— Колькі ж надаілі малака?

— Ад Хмары — дзевяць кілаграмаў, — адказала Люба.

— Гэта ваша рэкардыстка?

— Не. Рэкардыстка вунь, трэцяя ад краю. Муркай клічуць. Летась дала сем тысяч кілаграмаў малака. Між іншым, гэта карова мясцовай пароды...

— Выходзіць, што і каровы простай пароды могуць даваць вялікія надоі? Мабыць, усё залежыць ад корму?

— Не толькі. Два гады назад усе дзесяць кароў маёй групы лічыліся самымі непрадуктыўнымі...

— Значыць?..

— Значыць, малако ў каровы не толькі на языку, як кажа народная прымаўка, але і ў руках даяркі.

...Дзесяць год назад Люба скончыла шэсць класаў. Але вучыцца далей не давялося. Занядужала маці — калгасная цялятніца. І Люба — старэйшая дачка ў сям'і — кінула школу, каб дапамагаць дома. Іншага выйсця не было. Затым пайшла працаваць на ферму. Улетку пасвіла цялят, а зімой была за даглядчыцу на свінаферме. Хутка яе старанную працу заўважылі. Ужо тады вядомая на ўвесь калгас даярка Аляксандра Сакун, з якой Люба жыла па-суседству ў вёсцы Забалоцце, неяк па дарозе ў Плёсы на вечарынку сказала Любе:

— Пераходзь да нас. Даяркай працаваць.

— Не спраўлюся я ў вас. Апошняй не хачу быць.

— Дзівачка ты, — засмяялася Аляксандра Рыгораўна. — Абы было жаданне. Я дапамагу. Чэснае слова, дапамагу.

— Падумаю...

Нездарма людзі кажуць: прафесіяй авалодаць — не жартачкі. У першы год працы на ферме старалася Люба з усіх сіл, а плён быў малы: яна надаіла крыху больш за дзве тысячы кілаграмаў малака ад каровы.

— Праца даяркі спачатку мне здалася вельмі складанай, — успамінае Люба. — Не соладка быць даяркаю на першых кроках. Малако само не цячэ ў даёнку. Перамога прыходзіць часам не без слёз... Я спачатку пашкадавала, што кінула свінаферму. А потым падумала: няўжо я горшая за ўсіх?.. Аляксандра мяне ўвесь час павучала: галоўнае — верыць у свае сілы. Помню, сабралі нас, даярак, вынікі падводзіць. Я села на самай апошняй лаўцы. Чакаю, што пра мяне скажуць. Ударніцам прэміі выдалі... Пасля ўспомнілі і пра гультаёў. А пра мяне — ніхто ні слова. Быццам я і не даярка. І так, ведаеце, мне ад гэтага крыўдна стала. Няхай бы хоць пакрытыкавалі. Я выскачыла тады з клуба, бягу дадому, а ў самой — слёзы з вачэй. Такая дурніца была...

А потым я за брашуры хапілася. І тут — зноў тупік: не ўсё прачытанае зразумела. Шасці класаў мала, каб разабрацца ў такой літаратуры. І я ўпершыню тады пашкадавала, што рана кінула вучыцца. Цяпер то я ўзялася, як кажуць, за розум. Сёлета восьмы клас вячэрняй школы канчаць буду...

Люба наведвала заняткі школы даярак, створанай у калгасе «Перамога» па ініцыятыве Аляксандры Сакун. (Гэтая школа існуе і цяпер. У школе чытаюць лекцыі заатэхнік, аграном, ветурач, настаўнікі. Перадавыя даяркі часта дзеляцца сваім вопытам работы). Аднак у яе кароў па-ранейшаму былі нізкія надоі. Аляксандра Рыгораўна падбадзёрвала яе:

— Зразумей, перамога не адразу прыходзіць.

І чым больш падсцерагалі Любу няўдачы (нейкі час хварэлі аж дзве каровы), тым больш настойлівай была ў яе думка: абавязкова павялічыць надоі. І Люба старалася...

А неяк Аляксандра Сакун прапанавала ёй:

— Прымай, Люба, маіх кароў...

— А ты што, пойдзеш ад нас? — нічога не разумеючы, перапытала Люба (каровы, якіх даглядала Аляксандра Рыгораўна, былі самыя лепшыя на ферме).

— Не, Люба, я застаюся тут працаваць. Ферма — гэта мой другі дом. Я перадаю сваіх кароў як узнагароду за тваю шчырую працу. А сама вазьму тваіх. Вопыту ў мяне больш. Зразумела?

— Ды ў цябе ж сэрца якое, Саша. Дай я пацалую цябе... — і Люба моцна-моцна абняла Аляксандру. І тут жа не стрывала, заплакала.

— Дзівачка ты, Люба, — казала Аляксандра. — Я хачу, каб усе нашы даяркі былі перадавымі. Інакш, Люба, і быць не можа: у нас адны імкненні... Ты ж гэта сама разумееш...

Люба слухала сяброўку з затоеным дыханнем, а ў галаве з усёй яснасцю паўставала пытанне: «А ці паступіла б і я так, як цяпер Саша?..»

Мінуў яшчэ год. Справы Забалоцкай жывёлагадоўчай фермы прыкметна пайшлі ўгару. Не было ні адной даяркі, якая не надаіла б па 3 тысячы кілаграмаў малака ад каровы. Асаблівых поспехаў дамагалася Аляксандра Рыгораўна Сакун: ад першацёлак яна атрымала па 3.500 кілаграмаў! Люба надаіла ад кожнай каровы па 3.159 кілаграмаў малака. Гэта была яе першая значная перамога.

Вестка пра тое, што Аляксандры Рыгораўне Сакун Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы, маланкай абляцела калгас. Гэта яшчэ больш акрыліла людзей арцелі. Як жа! Іх зямлячка стала героем.

— Дзякуй, вялікае дзякуй вам, — ад шчасця не знаходзіла слоў Аляксандра.—Гэта ж не толькі мне ўзнагарода, гэта ж і вам. Без вас я ні за што не стала б героем...

З чарговага сходу даярак Люба Сакун вярнулася дахаты ўсхваляваная. Там гаварылі і пра новыя абавязацельствы працаўнікоў ферм. Выступала і Люба. У час яе прамовы хтосьці з даярак з другой брыгады кінуў:

— Добра табе хваліцца. А што б ты сказала, каб цябе паставілі на маю групу. Не каровы, а адна скура, ды косці, а Лысуха дык на тры саскі доіцца. Вось і атрымай ад іх шмат малака.

Гэтыя словы цяжкім каменем ляглі на сэрца Любы. Не давалі спакою і дома.

На двары была ноч. Ішоў дождж. Раз-пораз стукала аканіца. Парывісты вецер гайдаў ліпу, што была ля хаты, і скуголіў у коміне. Люба не магла заснуць, уздыхала. «Цікава, што ты сказала б, каб цябе паставілі даіць маю групу...», — успамінала яна рэпліку даяркі з другой брыгады. Любе прыгадаўся выдатны пачын Валянціны Гаганавай. «А што, калі б і мне пайсці на адстаючую ферму, што ў вёсцы Плёсы, узяць там самых непрадуктыўных кароў?..»

Люба разумела, што з гэтым крокам звязана нямала цяжкасцей. Затое ж, калі ўдасца на новым месцы дамагчыся поспехаў, гэта будзе моцным ударам па гультаях.

Люба апранулася і пайшла да Аляксандры Сакун.

Аляксандра яшчэ не спала, чытала.

— Што-небудзь на ферме здарылася? — захвалявалася яна.

— Нічога асаблівага. Я прыйшла параіцца.

Люба падзялілася сваімі думкамі.

— Рашэнне тваё правільнае, — падтрымала Аляксандра.

І яшчэ прайшло два гады. Для Любы яны былі часам напружанай працы і трывогі. Яна зразумела, што прачытаных кніг по догляду жывёлы і заняткаў у школе недастаткова. Яна ездзіла ў перадавыя калгасы Віцебскай вобласці, была ўдзельніцай выстаўкі ў Маскве. Усюды імкнулася пераняць новае, перадавое.

— Калі па якой-небудзь прычыне надоі малака зніжаюцца на ферме, — гаворыць старшыня арцелі А. Шахоўскі, — Люба тады нікому ў праўленні не дае спакою. Такі яна ўжо чалавек...

Сама Люба пра гэта вось што кажа:

— Мяне турбуюць справы ўсёй фермы. Бо адзін, як кажуць, у полі не воін.

Летась Люба надаіла больш чатырох з паловай тысяч літраў ад кожнай каровы. Значыць, і каровы простай пароды могуць даваць шмат малака!

— Гэта яшчэ не мяжа, — заяўляе Люба. — Сёлета ў гонар XXII з'езду роднай партыі я абавязваюся надаіць па 5.000 кілаграмаў ад кожнай каровы.

Слова сваё даярка падмацоўвае справай. Так, у студзені яна надаіла па 332 кілаграмы малака, у лютым — 354, а ў сакавіку — 400 ад кожнай дойнай каровы.

Можа скласціся ўражанне, быццам Любе Сакун толькі адно і карціць — гэта павышэнне надояў малака. Гэта далёка не так.

Хто ўнёс прапанову арганізаваць пры фермах чырвоны куток?

— Люба Сакун.

Па чыёй ініцыятыве ў арцелі быў створан універсітэт культуры, які наведвае зараз каля 400 чалавек?

— Любы Сакун.

Хто з'яўляецца адным з актыўных чытачоў калгаснай бібліятэкі?

— Люба Сакун.

Хто сагітаваў моладзь калгаса пайсці працаваць на жывёлагадоўчыя фермы? (Зараз тут працуе больш 30 камсамольцаў).

— Камсорг Люба Сакун.

Хто арганізаваў гэтай зімой з моладдзю пяць нядзельнікаў па вывазцы ўгнаенняў на палі?

— Таксама Люба Сакун.

Яшчэ і года няма, як Люба стала членам вялікай партыі Леніна. Па ініцыятыве даяркі, напрыклад, у першай брыгадзе распачата будаўніцтва новага тыпавога кароўніка і наладжана ў клубе сістэматычная дэманстрацыя сельскагаспадарчых фільмаў.

Як дэпутат раённага Савета Люба Сакун чула прыслухоўваецца да запатрабаванняў выбаршчыкаў. Люба Іванаўна — член гаркома партыі і абкома камсамола.

За старанную працу на жывёлагадоўчай ферме і за актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Люба Іванаўна Сакун двойчы ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР і ордэнам «Знак пашаны».

Нядаўна даяркам-ударніцам калгаса «Перамога» прысвоена званне брыгады камуністычнай працы. У брыгаду ўвайшло 13 чалавек: Вера Алфяровіч, Ніна Бутоўская, Раіса Шурын, Люба Самак, Аляксандра Сакун, Вера Бандарчук і інш. Брыгадзірам выбрана Люба Сакун.

На першай жа нарадзе членаў брыгады камуністычнай працы Люба заявіла:

— Летась я атрымала 12 тысяч рублёў на працадні. Акрамя гэтага, мне выдалі дадатковай аплаты і прэмій каля 5 тысяч рублёў. Усю дадатковую аплату і ўсе прэміі, што налічваюць мне, я прашу залічыць у фонд новабудоўляў калгаса. Няхай наш калгас «Перамога» будзе яшчэ больш багатым.

...У Плёсах увечары зззяе электрычнасць. У калгасным клубе грае гармонік. Гучыць бадзёрая песня.

— Гэта Сакуны забалоцкую моладзь у клуб на рэпетыцыю вядуць, — тлумачыць старшыня. — Яны ў нас усюды першыя: і на працы, і ў песні. Гэта Люба і Саша. Адным словам, запявалы...

Калі я ад'язджаў з калгаса, на душы было светла. Радавалі і вясна, такая дружная і цёплая, і людзі, працавітыя, слаўныя запявалы будучыні...

## ПАЧЫН КАМСАМОЛКІ

Галіна Белгародская працавала інструктарам Зельвенскага раённага Дома культуры. Умелы арганізатар гульняў, добры масавік-зацейнік, яна цікава арганізоўвала адпачынак жыхароў раённага цэнтра. Цёпла сустракалі гледачы выступленні Галіны на сцэне.

Галіна Белгародская часта выязджала ў вёску, практычна дапамагала сельскім клубам, дамам культуры. Аднойчы, вярнуўшыся з паездкі ў Казловіцкі сельскі клуб, яна зайшла да загадчыка раённага аддзела культуры В. Кіслова.

— Справы ў тым клубе дрэнныя,— расказвала яна загадчыку.—Жыхары вёскі незадаволены. Я вырашыла пайсці працаваць у гэтую культасветустанову.

І вось ужо два месяцы Галіна ўзначальвае Казловіцкі сельскі клуб. Тут цяпер вечарамі заўсёды поўна людзей. Калектыў мастацкай самадзейнасці клуба нядаўна выступаў з канцэртамі.

Ажывілася работа ў Казловіцкім сельскім клубе. Вялікая заслуга ў гэтым Галіны Белгародскай.

С. ПРАСНЯК.

## Гэта было пабудавана

Выстаўка праектаў лепшых жылых і грамадзянскіх будынкаў, пабудаваных у Беларусі ў 1960 годзе, адкрыта ў мінскім доме архітэктараў. Для ўсеагульнага агляду прадстаўлены тэхнічная дакументацыя і фотаматэрыялы на 54 будынкі. Сярод іх праекты жылых дамоў з сілікатных блокаў, пабудаваных у Мінску; дзіцячага саду на 125 месц, збудаванага ў Брэсце; школы на 500 вучняў, узведзенай у Віцебску і інтэрната на 210 месц, пабудаванага ў Магілёве.

У Гомелі на цэнтральнай вуліцы— праспекце імя Леніна — нядаўна адкрыўся самы буйны ў горадзе кніжны магазін. Тут вялікі выбар мастацкай, палітычнай і тэхнічнай літаратуры на рускай і беларускай мовах, аддзелы музычнай літаратуры і прадукцыі выяўленчага мастацтва.

**На здымку:** у новым кніжным магазіне. Работніца швейнай фабрыкі, грамадскі распаўсюджвальнік кніг Валянціна **Сапанова** падбірае літаратуру для распаўсюджвання на фабрыцы.

Фота М. Мінковіча.



Актыўна ўдзельнічаюць у танцавальным гуртку мастацкай самадзейнасці будаўнічага трэста № 4 Мінска зборшчыца гадзіннікавага завода Ала **Грыневіч**, студэнт тэхнікума савецкага гандлю Генадзь **Пістоленка** і лабарантка Акадэміі навук БССР Іна **Ермакова. На здымку** вы бачыце іх у танцы « «Чэшская полька».

Фота Ул. Крука.

Часопісы ў красавіку

## «ПОЛЫМЯ»

Нумар адкрываецца вершамі маладога паэта А. Наўроцкага. Друкуюцца вершы Р. Барадуліна, А. Вольскага, С. Шушкевіча, А. Дзеружынскага, А. Платнера.

Некалькі апавяданняў пад агульным загалоўкам «З новай кнігі» публікуе Я. Брыль. Змешчана падборка кароткіх апавяданняў Б. Сачанкі. Надрукаваны апавяданні Р. Сабаленкі «Аўтограф» і В. Карамазава «Букініч», аповесць Ул. Караткевіча «Раман Ракута».

«Зялёнае — колер шчасця» — так назвалі свой нарыс А. Адамовіч і К. Бердыеў. Друкуецца артыкул Рыгора Шкрабы «Кнігу прачытаў крытык».

У раздзеле «Успаміны, дакументы» — артыкул Ул. Калесніка «Песня з-за крат» і фрагменты з «Лукішскага дзённіка» Алеся Салагуба.

Бібліяграфічныя матэрыялы прадстаўлены ў нумары рэцэнзіямі Я. Семяжона на II том «Беларускіх народных песень» у запісе Р. Шырмы, Я. Усікава на зборнік нарысаў-успамінаў М. Хведаровіча «Памятныя сустрэчы» і М. Мадэля на кнігу «Майстры беларускай сцэны».

Надрукавана некалькі кароткіх рэцэнзій і «Дзядоўнік на Парнасе».

## ХТО ШУКАЕ, ТОЙ ЗНАХОДЗІЦЬ

Работнікі Дзяржынскай раённай бібліятэкі Б. Сівашынская, А. Бядрыцкая і Ж. Скарабагатая аддаюць шмат увагі прапагандзе сельскагаспадарчых ведаў. Рэгулярна аднаўляецца пастаянная выстаўка «Навінкі сельскагаспадарчай літаратуры».

На фотамантажы «У працы натхнёнай і творчай — героіка нашых будняў» — здымкі лепшых людзей раёна: даярак, свінарак, звеннявых, механізатараў, брыгадзіраў. У спецыяльным альбоме — матэрыялы раённай і абласной газет пра вопыт перадавікоў сельскай гаспадаркі. Ёсць мантажы і стэнды, якія прапагандуюць сямігадовы план раёна, абавязацельствы, узятыя на 1961 г.

У калгасы і саўгасы раённая бібліятэка накіравала 19 перасовак, якія абслугоўваюць каля паўтары тысячы чытачоў. Лепшыя прапагандысты кнігі Люба Тамарына (вёска Невялічкі, калгас імя Сталіна), Ганна Біжака (вёска Бакінава, калгас імя Кірава), Эдуард Татарыцкі (вёска Лісоўшчына, калгас «Іскра») дамагліся, што кнігі чытаюць у кожным калгасным двары.

Бібліятэка праводзіць масавыя мерапрыемствы: тэматычныя вечары, канферэнцыі чытачоў, кніжныя агляды.

Добрае ўражанне ў чытачоў пакінуў вечар «Імя Дзяржынскага — гордасць і слава, слова дзяржынцаў — цвярдзей металу». Старшыня передавога ў раёне калгаса імя Фалько В. Шайкоўскі расказаў пра поспехі гаспадаркі і планы на будучае. Лепшая даглядчыца цялят з калгаса імя Сталіна Яніна Бандак падзялілася вопытам работы, расказала, як жывёлаводы арцелі змагаюцца за выкананне сацыялістычных абавязацельстваў і як ім дапамагаюць веды, набытыя з кніг.

Цікава прайшла канферэнцыя чытачоў па рабоце Ул. І. Леніна «Вялікі пачын». У ёй прынялі актыўны ўдзел брыгадзір калектыву камуністычнай працы В. Лучына, ударнік камуністычнай працы І. Данілкін, калгаснікі, рабочыя, партыйныя і савецкія работнікі раёна. Пасля канферэнцыі павялічыўся попыт чытачоў на творы правадыра, узрасла цікавасць да кніг і брашур пра наватараў і перадавікоў вытворчасці, пра тых, хто вучыцца жыць і працаваць па-камуністычнаму.

Бібліятэка не толькі нясе да працоўных дасягненні навукі і перадавога вопыту, яна дапамагае ім змагацца за новага чалавека, супраць лодараў, абібокаў, хапуг. Тэме працоўнага выхавання былі прысвечаны канферэнцыі «Не праходзьце міма», «Хто не працуе, той не есць». Напярэдадні канферэнцый, як правіла, афармляюцца адпаведныя кніжныя выстаўкі, плакаты і ў самой бібліятэцы, і ў клубах саўгасаў, калгасаў і прадпрыемстваў. Праводзяцца бібліяграфічныя агляды літаратуры. На канферэнцыях выступалі раённы пракурор Н. Хурсік, начальнік аддзялення міліцыі В. Прышчэпа, сакратар райкома камсамола І. Пашкевіч, настаўнікі, рабочыя, калгаснікі.

У час двухмесячніка прапаганды сельскагаспадарчай літаратуры раённая бібліятэка стала больш дапамагаць сельскім прапагандыстам кнігі. Для іх арганізавалі семінар, на якім правялі паказальныя канферэнцыі чытачоў, тэматычныя вечары.

Добра прапагандуе сельскагаспадарчыя веды клубная бібліятэка ў саўгасе «Путчына», загадвае якой Тамара Ханецкая. Яна дапамагла аформіць наглядную агітацыю ў чырвоных кутках ферм у Саковічах і Гаруцішках, скамплектавала для іх літаратуру па жывёлагадоўлі. Для рабочых саўгасаў у вёсках Перацяткі і Вяртнікі арганізаваны бібліятэчкі-перасоўкі. Бібліятэка за апошні час папоўнілася новай сельскагаспадарчай літаратурай.

Ажывілася работа бібліятэкі ў калгасе імя Фалько, якой загадвае А. Калеснік.

Між тым ёсць яшчэ ў раёне бібліятэкі, якія не знайшлі шляхоў да сельскага чытача, не цікавяцца яго запатрабаваннямі. Возьмем для прыкладу саўгас «Камсамолец». Тут ёсць хата-чытальня. Загадчыкам яе лічыцца З. Ліхадзіеўскі. Дзверы гэтай культустановы ад наведвальнікаў засцярагае вялізны замок. Адмыкаецца ён вельмі рэдка. Кнігі, якія атрыманы яшчэ ў мінулым годзе, да гэтага часу не зарэгістраваны і не выдаюцца чытачам. Бібліятэчкі-перасоўкі існуюць толькі ў справаздачах, якія загадчык дасылае ў аддзел культуры. На самай справе ў іх больш года ўжо не абменьваецца літаратура. Няма калі З. Ліхадзіеўскаму працаваць у хаце-чытальні. Ён знайшоў дадатковую, больш даходную працу: вядзе урокі ў Татаршчынскай сярэдняй школе. Але і ранейшую пасаду не пакідае. Як кажуць, на двух крэслах сядзіць. Абы грошы. Скардзяцца на дрэнную работу бібліятэк чытачы з калгаса «Перамога» (там нават загадчыка няма!) з пасёлка Фаніпаль, з калгаса імя М. Горкага.

Прапаганда сельскагаспадарчай кнігі — адказная справа і нельга ставіцца да яе абыякава.

А. БЕЛАВУС.

## РАДКІ З ПІСЕМ

Нядаўна ў сельскім клубе вёскі Сукневічы адкрыты куток гісторыі партызанскага руху ў Плешчаніцкім раёне. Тут знаходзяцца фатаграфіі юных партызан-камсамольцаў, што загінулі геройскай смерцю недалёка ад вёскі, — А. Алёшкі, В. Жука, А. Ясюкевіча, былога камандзіра партызанскага атрада «Спартак», чэхаславацкага камуніста Ф. Горака, а таксама каштоўныя дакументы з партызанскіх часоў, сярод якіх падпольная газета «Бальшавіцкая праўда» за 11 лістапада 1942 г. і лістоўкі на нямецкай мове, адрасаваныя гітлераўскім салдатам.

Г. БЛІЗНЮК,
загадчык Сукнеўскай сельскай бібліятэкі, былы партызан.

* * *

У калгасе «Бальшавік» (Зельвенскі раён) маладая даярка т. Міцкевіч арганізавала ў сваёй хаце пункт выдачы кніг, якія яна для гэтай мэты ўзяла ў раённай біліятэцы.

П. СЯРГЕЕЎ.

* * *

У сацыялістычным спаборніцтве ўстаноў культуры Брэсцкай вобласці першае месца заняў Пінскі гарадскі аддзел культуры. На абласной нарадзе работнікаў культуры ён атрымаў пераходны Чырвоны сцяг абкома КПБ і абласнога ўпраўлення культуры.

І. КАЧАЛОЎСКІ,
загадчык Чэрскага сельскага клуба.

* * *

Добра працуе бібліятэка ў Доме культуры калгаса «Расія» (вёска Дэмбрава Шчучынскага раёна). На раённым злёце культработнікаў ёй было прысвоена званне ўстановы камуністычнай культуры, а бібліятэкарцы тав. В. Слабуха — званне ўдарніка камуністычнай працы.

І. РАСЕНІН.
студэнт Навагрудскага сельскагаспадарчага тэхнікума.

* * *

Пры Мазырскім клубе «Будаўнік» створаны на базе драмгуртка сярэдняй школы № 7 дзіцячы тэатральны калектыў які рыхтуе спектакль «Пецька ў космасе» па камедыі І. Дзіка.

# ПАМЯЦЬ СЭРЦА

У цэнтры Слуцка рыхтавалі пляцоўку для стаянкі таксі. Магутны бульдозер нібы брытвай зрэзваў кучы бітай цэглы, апошнія сляды даўно адгрымеўшай вайны.

Раптам да бульдозера падбегла немаладая жанчына і трывожна закрычала:

— Тут жа людзі пахаваны, што ж ты, сынок, робіш!

Мне ўспомніўся сонечны гарачы дзень 26 чэрвеня 1941 года. Над Слуцкам навісла велізарная хмара дыму і пылу. Горад гарэў ад няспынных бамбардзіровак. З захаду чорнай вужакай упаўзала ў Слуцк браніраваная калона ворага. Салдаты сядзелі на машынах і бронетранспарцёрах, нібы на парадзе.

І раптам перад імі бліснуў востры язычок полымя. Стрэл і выбух зліліся ў адно. Пярэдні бронетранспарцёр з салдатамі ўспыхнуў, зачадзіў густым дымам. Яшчэ стрэл—і ў канаву паляцела другая машына. Калона спынілася. А гармата пасылала ў ворага снарад за снарадам.

Паўгадзіну цягнуўся паядынак двух невядомых савецкіх воінаў з браніраванай калонай. Расстраляўшы снарады, артылерысты леглі за кулямёт і пачалі касіць гітлераўцаў. Але сілы былі няроўнымі. І ўсё ж фашысты не далічыліся сотні салдат і афіцэраў, чатырох аўтамашын і трох бронетранспарцёраў.

Жанчына, якая прасіла бульдазерыста «не чапаць магілу», была сведкай смелага паядынку. Яна памятае, што трупы адважных герояў былі пахаваны на тым месцы, дзе цяпер стаянка таксі. Усе тры гады акупацыі чыясьці клапатлівая рука клала на магілу жывыя кветкі. Фашысты знішчалі іх, але праз ноч на магільным узгорачку зноў палымнелі ружы ці незабудкі.

Неяк балюча ўсведамляць, што праз некалькі дзён асфальт закрые апошні след магілы. Можа б варта было на гэтым месцы паставіць мемарыяльную дошку, на ёй коратка расказаць пра подзвіг двух невядомых салдат.

Некалькі слоў пра мемарыяльныя дошкі. У Слуцку імі адзначаны ўсе месцы, звязаныя з гісторыяй рэвалюцыйнага руху і грамадзянскай вайны. Што ж, такую ініцыятыву можна толькі вітаць, каб яна была даведзена да канца. Але чамусьці няма мемарыяльных дошак на месцах, звязаных з гісторыяй партызанскага руху і вызвалення горада ад фашысцкіх захопнікаў.

Уздоўж дарог Беларусі вайна пакінула нямала магіл. На адных з іх стаяць велічныя помнікі, як ля вёскі Селішчы. На другіх... Лепей звернемся да фактаў.

...На пяты дзень вайны група нашых воінаў стрымлівала націск матарызаванага палка гітлераўцаў ля пасёлка Кучына па Бабруйскай шашы. Шэсць гадзін цягнуўся бой. Каля двухсот бярозавых крыжоў вырасла ў сасонніку. Загінулі амаль усе абаронцы пасёлка, якія на шэсць гадзін затрымалі шалёны націск ворага. А летам 1941 г. гэтыя шэсць гадзін многае значылі.

Жыхары пасёлка расказваюць, што ў час бою па шашы на ўсход выехалі апошнія дзве аўтамашыны з выхаванцамі дзіцячых дамоў.

Цяпер на брацкай магіле помнік. Але які! Тынкоўка асыпалася яшчэ мінулым летам. Застаўся адзін мураваны шкілет, які больш нагадвае комін. Дажджы і час сцерлі вершаваны надпіс, дзе напаміналася аб тым, каб кожны прахожы пакланіўся гэтай магіле. Зарасла быльнягом і магіла.

— Няўжо нельга навесці парадак на магіле? — пытаю ў старшыні Анговіцкага сельсавета т. Дз'якава.

— У нас ёсць грошы, што-небудзь прыдумаем, — адказвае ён такім тонам, нібы гутарка ідзе аб рамонце мосціка ці дарогі. А т. Дз'якаў сам удзельнік Айчыннай вайны. Няўжо чалавеку не сорамна за такі стан магілы.

Ёсць на тэрыторыі сельсавета школа, вучні якой у Дзень перамогі прыносяць на магілу загінуўшых воінаў кветкі. І ўсё.

— Хто ж адказвае ў раёне за стан помнікаў героям Вялікай Айчыннай вайны?—з такім пытаннем мы звярнуліся да ваенкома.

— Вядома хто—сельсаветы,—адказалі нам.

— Ну, а калі сельсаветы глядзяць на гэта праз пальцы?

— Мабыць, райвыканком.

На самай справе ніхто канкрэтна не адказвае за гэта. У горадзе шмат былых афіцэраў, якія выйшлі ў запас або ў адстаўку. Амаль усе яны —непасрэдныя ўдзельнікі Айчыннай вайны. Можа варта было б стварыць пры ваенкамаце ці райвыканкоме савет ветэранаў вайны, які б займаўся пытаннямі добраўпарадкавання магіл, помнікаў. Упэўнены, што калі б таварышы з такога савета пабывалі хоць раз у Анговіцкім сельсавеце, дык магіла ў Кучыне не была б занядбанай. І надпісы на помніках над брацкімі магіламі ў Слуцку не былі б такімі бязлікімі і трафарэтнымі. Ну, скажам, што хацелі сказаць аўтары такога надпісу: «Слава савецкаму народу—народу пераможцу! Вечная слава героям Вялікай Айчыннай вайны!» Мы не выдумалі гэтай эпітафіі. Яна чорным па беламу напісана на адным з помнікаў, дзе захаваны загінуўшыя пры вызваленні Случчыны салдаты, партызаны, афіцэры Савецкай Арміі. Прыкладна ў такім духу складзены надпісы і на астатніх помніках, устаноўленых на брацкіх магілах. Складалі іх, як звычайна, работнікі з гаркамунгаса, якія не абцяжарвалі сябе пошукамі яркіх, дакладных і разам з тым простых слоў. Надпіс на помніку—гэта таксама прапаганда. Успомнім поўныя рэвалюцыйнага пафасу словы на помніках героям рэвалюцыі на Марсавым полі ў Ленінградзе. Іх нельга чытаць раўнадушна, кожнае слова бярэ за душу, хвалюе.

Забылі ў Слуцку пра Героя Савецкага Саюза гвардыі капітана Зуба, які загінуў у баях за вызваленне горада. Хіба нельга было назваць яго імем вуліцу, або, скажам, адвесці куток у мясцовым краязнаўчым музеі? Патрэбна толькі адно—жаданне.

Кажуць, што маўчанне—золата. У адносінах да герояў Айчыннай вайны яно хутчэй за ўсё—раўнадушша. Інакш не назавеш адносіны гаспадароў горада і раёна да ўвекавечання памяці праслаўленага партызана Мікалая Бялько, генерал-палкоўніка двойчы Героя Савецкага Саюза І. А. Пліева, пад чыім камандаваннем савецкія воіны выганялі са Случчыны гітлераўскую нечысць. А Пётр Маглыш, Дзмітрый Гуляеў? Народ пра гэтых мужных партызан песні складае, а ў музеі—ні слова. Не знойдзеце і вуліц з імем гэтых герояў.

Ёсць у горадзе вуліцы Надрэчная, Зялёная (дарэчы, на ёй няма ні аднаго дрэва), Тупіковая, Вялікае кальцо... Але няма вуліцы з імем пісьменніка-земляка Кузьмы Чорнага...

Аўтару гэтых радкоў летам мінулага года давялося пабываць у якасці турыста ў Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспубліцы. Там з выключнай увагай і любоўю дагледаюць магілы і помнікі савецкім воінам і чэшскім партызанам, якія загінулі ў барацьбе з фашызмам. У горадзе Готвальдаве ў прыёмным пакоі будынка гарадскога Савета вывешана мемарыяльная дошка, на якой выпісаны імёны тых жыхароў горада, што загінулі ў барацьбе з фашызмам. Добрая ініцыятыва! Яе можна толькі вітаць. У Празе на адным з заводаў мы зноў убачылі падобную карціну. У чырвоным кутку на відным месцы высечаны імёны ахвяр фашызму — былых рабочых прадпрыемства.

Дваццаць гадоў мінула з таго часу, як ураган вайны абрушыўся на нашу краіну. Вырасла новае пакаленне людзей, якое вайну ведае па кінафільмах і кнігах. Яно не павінна забываць пра тых, хто аддаў жыццё за блакітнае неба і радасны смех дзяцей.

П. МІХАЙЛОЎСКІ.

## З кінакамерай па рэспубліцы

### „Савецкая Беларусь“ № 8

Паляводчая брыгада, якой кіруе ў саўгасе «Любанскі» Уладзімір Ранейскі, летась з плошчы ў 382 гектары сабрала па 14,7 цэнтнера збожжавых. За яшчэ больш высокі ўраджай змагаецца брыгада сёлета. Пра ўсё гэта і расказана ў першым сюжэце кіначасопіса «Савецкая Беларусь» № 8, які выйшаў на экраны рэспублікі.

Другі сюжэт часопіса прысвечан лепшай даярцы саўгаса «Зарэчча» Мінскай вобласці Марыі Фёдараўне Дзегцяровай, якая надаіла ў мінулым годзе ад кожнай замацаванай за ёй каровы па 5 680 кілаграмаў малака. Сёлета М. Дзегцярова абавязалася надаіць па 6 000 кілаграмаў малака.

З наступных кінакадраў гледачы даведваюцца аб палітэхнізацыі навучання ў шостай Гродзенскай сярэдняй школе, аб тым, што Мінскаму паштамту за перамогу ў сацыялістычным спаборніцтве ўручан пераходны Чырвоны сцяг Міністэрства сувязі рэспублікі.

З цікавасцю будуць прагледжаны сюжэт аб знаходжанні ў сталіцы Беларусі гасцей з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, а таксама кінакадры, якія расказваюць, што Гарадзейскі цукровы завод атрымаў нядаўна для перапрацоўкі вялікую партыю кубінскага трыснягавага цукру-сырцу.

Гледачы пазнаёмяцца з членамі калектыву Народнага тэатра Магілёўскага клуба чыгуначнікаў, убачаць спаборніцтвы на першынство Савецкага Саюза па вольнай барацьбе, якія праходзілі ў Мінску і ў якіх упершыню чэмпіёнамі Савецкага Саюза па вольнай барацьбе сталі беларускія асілкі — Уладзімір Лятун і Аляксандр Мядзведзь.

